


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

БЕЛАРУСКАЕ ПАЖАДАННЕ

Каб нашым ліхадзеям тое стала, што нам думаюць!

№ 5 (212) САКАВІК 2016 ГОДА

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ПРАВААХОЎНІКІ ПАВІННЫ СПЫНІЦЬ ДУБАВА

**Гэтая дзікая гісторыя распачалася 4 лютага ў адной з аддаленых вёсак Гарадоцкага раёна. 80-гадовы ветэран працы Міхась быў збіты дошкай мясцовым дачнікам. Потым жа гэты Дубаў зняважаў 75-гадовую Ганну, жонку ветэрана, рознымі паклёпнымі словамі**

Выпадкова мне давялося пазнаёміцца з ветэранам працы Ганнай пару тыдняў назад, калі яна ў ашчадным банку аплочвала штраф. Слова за слова і Ганна распавяла пра сваю праблему, якая пачалася 4 лютага з яе мужам Міхасем, прывяла да судовага пасяджэння ў Гарадку, але так і не вырашалася.

4 лютага гаспадар Міхась са сваім памагатым Алесем вырашылі ўзяць шыфер са старога дома, які калісьці належыў калгасу. У гэтым калгасе вясковец прапрацаваў 45 гадоў. Пасля ліквідацыі калгаса гэты дом адстаяў ўжо амаль дваццаць гадоў і па восені яго на дровы распілiў адзін сяльчанін, а шыфер застаўся. І Міхась вырашыў забраць з яго стары шыфер.

Але нечакана на памагатага з дошкай напаў здаровы мужык Дубаў – "пад два метры ростам", які мае ў вёсцы дзве дачы, а ў Віцебску некалькі машын. Дачнік збіў Алеся, што ён апынуўся пад шыферам і далей біў нагамі. Пасля гэта з крыкам – "гэта маё "—Дубаў стаў біць дошкай ветэрана працы. Спачатку па плячу, а потым па руках, якімі ветэран закрываў галаву. Ледзь ветэран ускочыў у трактар, бо за імі бег звар'яцелы дачнік.

Пасля гэтага гвалту Міхась апынуўся ў ложку і жонка выклікала і мясцовага фельшара, і ўчастковага. Прыехаўшыя міліцыянты бачылі збітага да крыві ветэрана, але ў выніку іх "даследавання" ніякіх цялесных пашкоджанняў, нанесеных Дубавым, зафіксавана не было. Склалі толькі на Дубава пратакол за дробнае хуліганства. Міліцыянты прапанавалі толькі звярнуцца ў райбальніцу за 40 км ад гэтай вёскі.

Але Міхась адчуваў сябе так кепска, што не мог выйсці з дому некалькі дзён. Запрошаны фельдшар зафіксаваў у даведцы ўдары на кісцях рук ветэрана, выпісаў неабходныя лекі. Толькі горшае было яшчэ наперадзе.

Вясковыя жыхары абслугоўваюцца аўталаўкай і каля яе так ці інакш збіраюцца ўсе жыхары вёскі, калі прывозяць прадукты. Вось і Ганне давялося хадзіць да аўталаўкі і каля яе атрымліваць паклёпы, абразы, хлусню і пагрозы ад Дубава, на якога завялі адміністрацыйную справу.

Жанчына са слязьмі на вачах распавяла, як Дубаў некалькі разоў называў яе і паліцайкай, і падпальшчыцай. І гэты паклёп і знявага прыводзілі да чарговых гіпертанічных крызаў ў былой непаўнагадовай вязніцы нямецкіх канцлагераў у гады Вялікай Айчынай вайны. У сапраўднасці Ганна сваё дзяцінства правяла ў партызанскай зоне. Маці Ганны ўзнагароджана за ўдзел у баявых партызанскіх справах медалём "За адвагу", а бацька, які пайшоў у Савецкую армію 23 чэрвеня 1941 года, знік без вестак у жніўні 1944 г.

Самі ж Ганна і Міхась вясной 1943 года апынуліся ў нямецкім канцлагеры ў Віцебску, калі фашысты правялі ў Гарадоцкім раёне карную аперацыю. Потым быў яшчэ канцлагер пад Маладзечна, дзе іх ва ўзросце чатырох і дзевяці гадоў вызвалілі савецкія войскі. Пра ўсё гэта ветэраны маюць дакументы – памяць пра цяжкае ваеннае дзяцінства.

І вось гэту дачку партызанкі, загінулага салдата, былога вязня фашысцкіх канцлагераў, ветэрана працы крыху недапечаны дачнік называе -- паліцайкай?!...

У Гарадку ж Ганна і Міхась у дзень нашага знаёмства апынуліся на судзе, дзе разглядалася справа пра "хуліганства" Дубава.

Дубаў для свайго "адбельвання" прыдумаў і сведчыў, што Міхась кідаўся на яго з.. заточкай і сякерай, хаця ніякіх такіх рэчавых "доказаў" і паблізу не было ў пацярпелых. Суд не ўзяў да справы даведку фельдшара пра ўдары па руках і г.д. Ды і праваахоўнікі параілі забраць скаргу на Дубава… Як ні як ён жа "круты" дачнік: з двума дачамі і трыма машынамі. Ды і жонка працуе яшчэ у медычнай установе, куды міліцыя часта звяртаецца па экспертызе… Дарэчы і Міхасю прапанавалі там абследавацца…

Пра гэты здзек у адносінах да ветэранаў працы, былых вязняў фашысцкіх канцлагераў я дапамог напісаць зварот начальніку Гарадоцкага РАУС і зарэгістраваць яго ў міліцыі разам з Міхасем.

Зараз справай гонару тутэйшых праваахоўнікаў з'яўляецца абарона парушаных правоў ветэранаў працы, якія жадаюць толькі аднаго – спакойна дажыць у сваёй вёсцы. Той вёсцы, дзе прайшло іх апаленае вайной дзяцінства. Той вёсцы, дзе яны выгадавалі дачку і сына. Той вёсцы, дзе яны зараз дажываюць свой век.

Відавочна, што Дубаў абавязаны маліць даравання ў сваіх суседзяў за свае някчэмныя дзеянні. І максімальна кампенсаваць страты, якія панеслі ад яго Ганна і Міхасць за апошнія часы…

А ў нашых ветэранаў добрыя сэрцы і зла на людзей яны не трымаюць. Жадаюць жа аднаго – спакойна дажыць на роднай зямлі, каб не турбаваць сваіх дзяцей, унукаў..

*(Прозвішча, імёны зменены, а ўсе дакументы маюцца ў рэдакцыі)*

**Леанід Гаравы**



ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## ПАМЯЦЬ МЁРТВЫХ "ЎШАНОЎВАЕЦЦА" СМЕТНІКАМІ

**Навядзенне парадку на Іванаўскіх могілках да гэтага часу застаецца па-за ўвагай як камунальнікаў, так і старшыні Гарадоцкага райвыканкаму.**

Іванаўскія могілкі кожны год сустракаюць масавы прыход грамадзян на могілкі сваіх Дзядаў, як на Радуніцу, Троіцу ці іншыя гадавыя даты памерлых. З 2008 году Іванаўскія могілкі пашырыліся на новую тэрыторыю ў бок вуліцы Стараполацкая. А некалькі гадоў назад камунальныя службы аднавілі сапсаванае асфальтавае пакрыццё на могілках для праезду аўтатранспарта, арганізавалі стацыянарную паркоўку. Таксама на могілках устанавілі кантэйнеры для збору смецця.

Але, нягледзячы на папярэдзія звароты грамадзян, улады так і не прыступілі да ліквідацыі сметнікаў на тэрыторыі могілак. Гэтыя сметнікі, якія часам вышэй агароджы дзікавата выглядаюць на могілках. Пры гэтым ўзрост асобных сметнікаў больш мусіць 20 гадоў. Усяго такіх сметнікаў калі магілаў нашых Дзядоў больш 10.

Гэтым годам Гарадоцкі райвыканкам запланаваў чарговы месячнік па навядзенню парадку на вуліцах Гарадка, а таксама ўлады заклікаюць навесці парадак і на ўскраінах райцэнтра. Толькі вось ніяк не пастаўлена задача ліквідацыі сметнікаў на Іванаўскіх могілках. Між тым жыццё патрабуе павагі да памерлых, каб побач з імі не раслі горы смецця. А вызваленыя плошчы магчыма прадаць тым, хто яшчэ не мае месца на могілках.

І Міжнародную акцыю "Зробім – 2016" найперш варта правесці не ў Вараб'ёвых гарах, а на Іванаўскіх могілках. Калі не 9 красавіка, то ў крайнім выпадку да Радуніцы. Пераканаваны, што людзі масава адклікнуцца на запрашэнне ўладаў дапамагчы вызваленню Іванаўскіх могілак ад сметнікаў.

**Леанід Гаравы**

БЮДЖЭТ

## ШТРАФЫ ВЫРАСТУЦЬ У ПЯЦЬ РАЗОЎ ХУТЧЭЙ, ЧЫМ БЮДЖЭТ

**Гарадоцкі райсавет напрыканцы 2015 года па традыцыі прыняў бюджэт раёна на 2016 год з невялікім прафіцытам. Пры гэтым рост штрафаў запланаваны на 16% у параўнанні з папярэднім годам.**

29 снежня Гарадоцкі райсавет прыняў рашэнне №85 "Аб раённым бюджэце на 2016 год". Пры гэтым запланаваны прыбыткі раённага бюджэта ў 277, 257 млрд. рублёў, а выдаткі ў 277, 157 млрд. рублёў. Мясцовая ўлада разлічвае мець такім чынам прафіцыт бюджэту ў 100 млн. рублёў. Зразумела, што потым на працягу года ў гэтыя планы будуць уносіцца змены і дапаўненні і што будзе напрыканцы года – цяжка сказаць.

Прыбыткі раённага бюджэта гэтага года выраслі ў параўнанні з 2015 годам менш чым на 10 млрд рублёў або на 3% вышэй, чым у мінулым годзе. А з улікам афіцыйнай інфляцыі ў 12%, то рэальна бюджэт раёна зьменшыцца ў 2016 годзе на 9%.

Зусім іншая сітуацыя са штрафамі, якія ў гэтым годзе павінны сабраць з грамадзян і юрыдычных асоб падатквікі, міліцыя, пажарнікі, эколагі, вет і сан станцыі, пракуратура, суды і г.д. Усе гэтыя структуры ў 2016 годзе мусяць сабраць 2, 497 млрд. рублёў за кошт штрафаў. Гэтая лічба на 16% вышэй, чым было запланавана ў 2015 годзе, калі трэба было сабраць 2, 154 млрд. рублёў. Такім чынам дзяржава "для народу" з гэтага самага народу планue павялічыць прырост збору штрафаў у пяць раз вышэй, чым напоўніць бюджэт раёна. Ці правільна або ці справядліва гэта? Рашайце самі, калі прымаеце ўдзел у псеўдавыбарах…

Адно пазітыўна, што дадзенае рашэнне па бюджэту ўпершыню з'явілася на састарэлым сайце Гарадоцкага райвыканкаму, дзе маецца старонка для рашэнняў райсавета. Застаецца толькі спадзявацца, што "слугі" народу будуць інфармаваць гэты самы гарадоцкі народ аб выкананні бюджэту хаця бы для пачатку за 2014 год.

**Леанід Гаравы**

### Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

БІЯТЛОН

# ДУБОРЕЗОВА ПОКАЗАЛА ЛУЧШИЙ РЕЗУЛЬТАТ СЕЗОНА

**17 марта в российском Ханта-Мансийске на заключительном этапе биатлонного сезона наша землячка в спринте заняла 17-е место. При этом победителю спринтерской гонки Дуборезова впервые в карьере уступила меньше минуты при идеальной стрельбе.**

На заключительном этапе Кубка мира по биатлону в спринте Анастасия Дуборезова прошла дистанцию без промохов на лежке и стойке и заняла для себя высокое 17-е место. При этом победительнице гонки Кайсе Макарайнен Настя уступила только 59,6 сек. – наименьшее время отставания от победителя спринта за всю биатлонную карьеру землячки.

Также это второй результат сезона для Анастасии после индивидуальной гонки в Эстерсунде, где наша землячка была 12-й. После этого старта в копилке Анастасии 98 очков и 51 место в общем зачете Кубка мира.

Лучшая белорусская биатлонистка Надежда Скардино заняла 9-е место. Оба огневых рубежа Скардино прошла без промахов, но проиграла лидеру гонки 41,6 секунды.

Победительницей стала Кайса Мякяряйнен из Финляндии, допустившая один промах при стрельбе стоя. Второе место заняла Габриэла Соукалова из Чехии, проигравшая Мякяряйнен 3,1 секунды. Третье место у Марте Олсбю из Норвегии (+4,8). И Соукалова, и Олсбю огневые рубежи прошли без промахов.

**Л. Антонов**

НАВІНЫ КУЛЬТУРЫ

# “ГАРМОНІЯ” СТАЛА ЎЗОРНЫМ КАЛЕКТЫВАМ

**Пастановай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь студыя бальнага танца “Гармонія” Гарадоцкага ГДК атрымала званне “ўзорны самадзейны калектыў” яшчэ напрыканцы 2015 года. Прапануем чытачам паглядзець відэа і фота пра студыю “Гармонія”.**

Пастановай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь №58 ад 29 снежня 2015 года студыя бальнага танца “Гармонія” Гарадоцкага Дома культуры адзначана званнем “ўзорны самадзейны калектыў”. Гэтае званне дадзена за папулярызацыю нацыянальных культурных традыцый, адпаведны мастацкі ўзровень, творчыя паказчыкі, развіццё аматарскай мастацкай творчасці і актыўную канцэртную дзейнасць.

Гэта высокая адзнака найперш кіраўніка балетнай студыі “Гармонія” Тацццяны Сіманковіч, якая праз пастаянны творчы пошук стварыла студыю бальнага танца, так і маладых гарадакчан, якія авалодалі майстэрствам танца. На сёння “Гармонія” стала візітоўкай Гарадка на шматлікіх танцавальных конкурсах, як Віцебшчыны, так і краіны. І безумоўна без удзелу “Гармоніі” не абыходзіцца ніводны канцэрт у Гарадоцкім ДК.

Урачыста пасведчанне будзе ўручана сёння 27 сакавіка пад час справаздачнага канцэрта творчых калектываў і выканаўцаў Гарадоцкага ГДК, які пачнецца ў 15.00.

**Л. Антонаў**

ЭКАЛОГІЯ

# ЕЗЯРЫШЧАНСКАЕ ВОЗЕРА І ВОЗЕРА ЦЁСТА СЯРОД САМЫХ ЧЫСТЫХ

**Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя вядзе пастаянны маніторынг стану вод Беларусі, паведаміў сёння на прэс-канферэнцыі намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Ігар Качаноўскі.**

«Маніторынг падземных вод у Беларусі праводзіцца на 97 гідралагічных пастах па 347 рэжымных наглядальных свідравінах. Існуючая дзяржаўная сетка маніторынгу паверхневых вод налічвае амаль 300 пунктаў назірanняў на 160 водных аб'ектах. Актуалізацыя даных нацыянальнай сістэмы маніторынгу навакольнага асяроддзя Беларусі штогод праводзіцца на афіцыйным сайце Мінпрыроды», — адзначыў намеснік міністра.

Ігар Качаноўскі расказаў, што самымі чыстымі вадаёмамі прызнаны азёры Паўночнае Воласа, Паўднёвае Воласа [месца размяшчэння браслаўскай рэзідэнцыі Аляксандра Лукашэнкі — НН], Езярышча, Лукомскае, Мядзел, Абстэрна, Саро, Снуды і Цёста ў басейне Заходняй Дзвіны, возера Мястра і Нарач у басейне Нёмана, возера Белае каля населенага пункта Бастынь у басейне Прыпяці.

«Найбольшую нагрузку ад сцёкавых вод адчуваюць Свіслач ніжэй за Мінск, Нёман ніжэй за Гродна, Бярэзіна ніжэй Бабруйска, Дняпро ніжэй за Магілёў і Рэчыцу, Заходняя Дзвіна ніжэй за Наваполацк, Прыпяць ніжэй за Мазыр і Ясельда — ніжэй за Бярозу», — паведаміў ён.

Намеснік міністра падкрэсліў, што важным напрамкам маніторынгу з'яўляецца назіранне за станам вод на трансгранічных участках рэк па міжнародных пагадненнях. «Цяпер Беларусь падпісала два такія пагадненні — з Расіяй і Украінай. Вядзецца работа па заключэнні аналагічнага пагаднення з Польшчай. Беларусь прымае ўсе меры, накіраваныя на рацыянальнае выкарыстанне і ахову водных рэсурсаў», — рэзюмаваў Ігар Качаноўскі.

**БелТА**

ПАДАРОЖЖА

# ЧЫМ БЕЛАРУСЫ АДРОЗЬНІВАЮЦЦА АД РАСЕЙЦАЎ?

**Адказ зь Езярышча, апошняга паселішча перад мяжой знайшоў Зміцер Бартосік, карэспандэнт Радыё Свабода. Наколькі вялікая наша краіна, можна добра адчуць, калі праехаць ад Берасьця да поўначы Віцебшчыны. Калі на поўдні Беларусі ўжо забыліся, што такое сьнег, і зьнялі паліто ды цёплыя курткі, дык у мястэчку Езярышча сьнег нават і ня думае сыходзіць. І назвы вёсак у Гарадоцкім раёне адпавядаюць гэтаму суроваму краю. Студзёнка, Марозава, Мехавое.**

Езярышча — тыповы былы райцэнтар, які паўстагодзьдзя таму разьвітаўся са сваім статусам. Ёсьць тут сталінскі райкам з калёнамі, ёсьць вуліца, якая некалі задумвалася як бульвар.

Ёсьць нават помнік мінулай вайне. Танк на пастамэнце. Прычым рэдкі экзэмпляр — Т-70. Іх у сьвеце засталося вельмі мала.

Настаўніца гісторыі Ларыса Нікіфарава робіць вялікую справу. Пасьля ўрокаў запісвае ўспаміны старажылаў. І пра даваенне жыцьцё, і пра акупацыю. У яе назьбіраўся матэрыял не на адну кнігу. Але са мной пані Ларыса дзяліцца сваімі гісторыямі не захацела. І я яе выдатна разумею. Дасьледчыца рыхтуе кнігу, і для яе кожны ўспамін — гэта скарб.

— Зараз нічога вам не скажу. Бо для мяне гэта лёс і боль сэрца. Я ўсё прапусьціла праз боль. Калі жанчына мне расказвае, як яна закопвала дзяцей забітых. Пасьля тэлефануе мне. «Я ня спала. Навошта вы прыходзілі?» Ці гісторыя расстрэлаў, калі маці крычыць на мужа ў адчаі: «Аддай мне Валодзьку!» Маці гатовая забраць у магілу сваё дзіця. Бо яе расстрэльваюць, а як бацька пражыве з трыма малымі? Уяўляеце? Якая драматургія і якая вастрыня? А я пасьля хаджу з гэтым болем.

Граніца з Расеяй выглядае ціха і пустынна. Ні ажыўленага руху, ні людзей. Сумуе адзінокі дашчнік на фоне некалькіх страхавых будак. Нават ня верыцца, што ў тых будках ёсьць жыцьцё. У адной зь іх я разгаварыўся са страхоўшчыцай. Якая распавяла мне пра плюсы і мінусы памежнага жыцьця.

— На крупы, па муку, па алей. Усе едуць у Расею. Там нашмат таньней. Па каву, па чай. У нас толькі гарэлка таньнейшая. І душа баліць, колькі выяжджае моладзі. Уладкоўваюцца на працу. За любую чапляюцца. Забіраюць сем'і і выяжджаюць. Кажуць, што расіяне працаваць ня хочуць, а для нас заўжды праца ёсьць. Ім зарплата малая, а нас задавальняе.

У кожнага беларуса свой погляд на сёньняшні крызіс. У кіроўцы таксі адзін крызіс, у арыштаванага бізнэсоўца — іншы. А вось як выглядае крызіс з акенца памежнай страхоўшчыцы.

— Паток стаў меншы разы ў два. Калі ня ў тры. Колькі мы з вамі сядзім, а ніхто з расіян не зайшоў. Раней бы мы так не сядзелі. Раней уся пляцоўка была застаўленая машынамі. Не пасьпявалі афармляць.

***— Вы ўнутрана падрыхтаваліся, што гэта надоўга?***

— Мы ведаем, што мы ў вёсцы не прападзем. Хто хоча жыць, заўжды пражыве. Якія лясы цудоўныя. Летам ягады, грыбы. Нарыхтоўвай што хочаш. Мы ніколі на зарплату не разьлічвалі.

І, вядома, на беларуска-расейскай мяжы абвастраецца пачуцьцё патрыятызму. Выяўляецца гэта, вядома, ня ў мове і ня ў веданьні гісторыі. А вось у чым.

— У нас заўжды гароды капаюцца, грады. А ў Расеі яны збольшага гультаі. Лавачка каля дома. Ні плота, нічога. Сядзяць семкі плююць. Хіба мы будзем семкі плявать, калі ў мяне бур'яном усё парасло?

Ці варта выхваляцца такімі беларускімі якасьцямі, як уменьне выжываць бяз грошай? Па-мойму, ня самая лепшая рыса для новага стагодзьдзя. І ці не таму ўцякае моладзь на той бок мяжы, што там хоць нешта, але плацяць?

Найстарэйшай жыхарцы Езярышча Натальлі Канарчуковай споўнілася 97 гадоў. І гэта не глыбокая старая, а вельмі энэргічная, зь ясным позіркам і зычным голасам кабета. З рэпрэсаванай сям'і. Яе бацька, Арсень Грыгор'еў, ня стаў чакаць арышту і высылкі ўсёй сям'і.

— Усе малацілі цапамі, а ў нас ужо была малатарня. І за гэта б раскулачылі. Бацька ўцёк. Быў на Беламорканале. А інакш усе былі б у Сыбіры.

Я гутару з удзельнікам гістарычнага працэсу. Напрыканцы 30-х гадоў Натальля Арсенеўна працавала землямерам. У той час, калі Савецкая ўлада ліквідавала хутары.

— Я сама сьсяляла. Няма такой вёскі, здаецца, у раёне, дзе б я не пабывала.

***— У якім годзе вы сьсялялі?***

— У 38-м. Я тады скончыла пры Сельгасакадэміі гадавыя курсы. Расьсяленьне з хутароў, пляніроўка новых пасёлкаў. Мне сьпіс у рукі. «Пляную вёску і сядзібы наразай».

***— А як вы сьсялялі? Як вы людзям прыходзілі і гаварылі пра гэта?***

— Вельмі... Вельмі непажадана. Нават стрэхі зрывалі. Ня хочаш ісьці? Да цябе прыйдуць і страху здымуць. І пойдзеш. Непажадана было. Людзі, вядома, плакалі. Але куды. Па раёну боўталася дзяўчонкай. А потым далі такі калгас «Чэкіст». Рабіць тэадалітную здымку!

Не ўяўляю, як можна было ў 38 годзе не ўступіць у калгас «Чэкіст». Ад гэтых слоў і сёньня дрыжыкі па скуры.

Натальля Арсенеўна была тройчы замужам. Першы муж загінуў на фронце. Ад яго было дзьве дачкі. Памерлі ў акупацыю. Прайшло больш за 70 гадоў, а старая Натальля дагэтуль плача па сваіх дзецях.

— Мае дзяўчаткі. Адна была 39-га, другая 42-га. Што яны бачылі? Я нават не хадзіла на могілкі. Людзі хавалі. А я жыву дзевяноста сем гадоў. Чаму я жыву? За адзін тыдзень пахавала дзяцей. Ад сьлёз ня бачыла сьвету. А праз год загінуў і муж. Мяне нічога ня радавала. І ні пра што не хацела думаць. Я і цяпер плачу. Не адпускае. Усё на сэрцы. Нядаўна сядзела вязала маленькія шкарпэткі малым. Дык як быццам сваім вяжу.

У кожнага старажыла свае жыцьцёвыя прынцыпы. І гэтым прынцыпам варта павучыцца.

— Каля мяне ўсе харошыя. Ніколі не было каля мяне кепскіх людзей. Ніколі!

**Зьміцер Бартосік**
**svaboda.org**

УГОДКІ БНР

# ВІНШАВАННЕ СТАРШЫНІ РАДЫ БНР

**Віншаваньне Рады БНР да 98-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.**

"Дарагія суродзічы, 98 гадоў таму — ранічкай 25 сакавіка 1918-га — на нашай зямлі адбыўся цуд: паняволены, зьнямоканы вайной беларускі народ заявіў, што «ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай вольнай дзяржавай».

Сёньня Беларусь жыве!

Жыве, дзякуючы рашучасьці нашых продкаў у 1918-м годзе, але таксама дзякуючы жыцьцяздольнасьці кожнага з нас!

Дваццатае стагодзьдзе было адным з найстрашнейшых у гісторыі чалавецтва, і асабліва моцна пацярпеў наш край. Мы вытрымалі дзьве чужыя вайны, шматлікія спробы генацыду нашага народу — высылкі, расстрэлы, дыктатуры, выгнаньне трацiны нашага народу ў замежжа. Чужакі нішчылі нашую прыгожую мову, нашую шматвяковую культуру, нашую веру, нашае пачуцьцё годнасьці. Нягледзячы на ўсё гэта, мы выжылі. Мы жывём, і жыве Беларусь!

Дарагія суродзічы, прыпамінаю цяжкія часы, каб вы не зьнеахвоціліся.

Калі мы часам робімся больш асьцярожнымі, ці памяркоўнымі, гэта таму, што мару пакаленьняў. І вось ужо чвэрць стагодзьдзя наш край незалежны — але ўсё яшчэ не свабодны.

Прыйдзе час, калі будзем сапраўды той незалежнай, вольнай дзяржавай, пра якую гаварылі нашыя Дзяды, калі наш кай далучыцца да




адчуваем, што надыходзяць цяжкія часы, і нам трэба іх перажыць.

Сёньня, аднак, хачу яшчэ раз выказаць вам сваю веру, што мы дасягнем тае лепшай будучыні, пра якую мы марым. Пацьверджаньне нашай моцы бачым у зусім нядаўняй гісторыі — калі 25 жніўня 1991 году беларусы здолелі скарыстаць шанец і аднавілі Незалежнасьць,зьдзейсьніўшы сям'і заможных і паважаных эўрапейскіх народаў. Мы даказалі, што мы вартыя гэтай павагі.

Жадаю вам сёньня мужнасьці і вытрываласьці. Мы яшчэ пабачымся у вольнай Беларусі. Моцна веру ў гэта, і хачу, каб кожны з вас у гэта верыў.

Жыве Беларусь!

**Івонка Сурвілла,**
**Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі"**

ДЕЛО САВЧЕНКО

# САВЧЕНКО – УКРАИНСКАЯ ЖАННА Д'АРК

**Все, происходящее с Надеждой доселе, с точки зрения московских стратегов, было несомненной удачей. И, пожалуй, зря вы думаете, что ее будут менять на военнослужащих Ерофеева и Александрова.**

Савченко — это украинская военнослужащая, сражавшаяся на территории Украины против незаконных вооруженных формирований, посягающих на целостность украинского государства. С какой стати и за что судить ее на территории России?

Если мы признаем, что люди, против которых сражалась Савченко, наши агенты, — то нельзя судить противника за участие в войне. Если мы не признаем этих людей своими агентами, то это значит, что они — террористы. Невозможно судить человека за борьбу с терроризмом.

В принципе дело Савченко упирается в одну простую проблему. Если ты посылаешь боевиков на территорию сопредельного государства, ты не можешь судить тех, кто сражается против них, как убийц мирных граждан.

Чтобы обойти эту закавыку, Савченко предъявлено конкретное обвинение. Ее обвиняют не в том, что она, украинская военнослужащая, сражалась против засланных на территорию ее страны боевиков. Ее обвиняют в том, что 17 июня 2014 года она убила двух российских журналистов — Игоря Корнелюка и Антона Волошина. Так как журналисты были убиты при минометном обстреле, то обвинители, чтобы как-то привязать к делу Савченко, заявили, что она залезла на вышку сотовой связи, с которой и корректировала обстрел.

Проблема в том, что это конкретное обвинение высосано из пальца. Савченко была захвачена в плен за час до гибели Волошина и Корнелюка. Это подтверждается билингами обоих ее телефонов, которые суд отказался принять во внимание. Это также подтверждается расположением солнца и теней на видеозаписях, сделанных при взятии Савченко в плен.

Кроме того, версия о том, что минометный огонь (кто бы его ни вел) специально велся по журналистам, — не выдерживает критики. Волошин и Корнелюк погибли потому, что передвигались вместе с боевиками, по которым и велся огонь.

Третьим обстоятельством дела является вопрос о том, как вообще Савченко оказалась на территории России. Здравый смысл заставляет предполагать, что она была взята в плен сепаратистами 17 июля 2014 года около 10 часов утра, передана кураторам и насильно вывезена в Россию.

Те, кто ее вывозил, являются похитителями человека, а значит, уголовными преступниками. Чтобы скрыть этот очевидный факт, организаторы похищения, являющиеся одновременно организаторами дела против Савченко, выдумали фантастическую историю о том, что после взятия в плен Савченко была отпущена, а затем незаконно перешла границу, где и была задержана.

Одна из проблем дела украинской Жанны д'Арк — это несоответствие между высоким политическим уровнем, на который оно поднялось, и низким интеллектуальным уровнем фальсификаторов, которые его лепили.

Modus operandi Кремля заключается в том, что он никогда не курирует спецоперацию до конца, чтобы потом иметь возможность отрицания: «Я? Да я тут ни при чем!»

Когда следователь Дмитрий Маньшин допрашивал Савченко в Ростове, он, очевидно, не предполагал, что допрашивает женщину, которая будет избрана депутатом Верховной рады и Европарламента. Женщину, которую накануне вынесения приговора потребует без всяких условий освободить госсекретарь США. Женщину, из-за которой депутаты Европарламента создадут «список Савченко».

Следователь Маньшин не знал, что допрашивает украинскую Жанну д'Арк. Жанна д'Арк не входила в интеллектуальный и умственный горизонт следователя Маньшина.

Вторая проблема дела Савченко заключается в том, что в области внешней политики московские стратеги

*(працяг на стар. 4)*

НАША СВЯТА

# НАКОСЯЧИЛИ

**Про эффект первой пуговицы знают все. Если только застегнешь ее неправильно, то дальше что-то исправлять уже бесполезно. Хоть шарфиком прикрывай, хоть сумочкой, хоть руками полы придерживай...**

Все равно дальше все идет наперекосяк: воротник разъезжается, плечи сползают, карманы «пляшут»...

Выход один – расстегнуться и застегнуть все сначала.

Вчера, на День воли, глядя на бело-красно-белые флаги и ленточки, на “Погоню”, на людей, который искренне поздравляли друг друга с праздником, вновь вспомнила именно про этот эффект первой пуговицы.

Ведь именно после того, как Беларусь отказалась от исторически-мотивированных национальных символов, у нас все пошло наперекосяк. Истинные пат-риоты Беларуси оказались “пятой колонной”, адепты империи – патриотами. Те, кого интересует исключительно чарка-шкварка были признаны хорошими белорусами, те, кого интересует национальный язык, история, Идеи в широком смысле этого слова – врагами, нехорошими, неправильными. И даже если совсем не про высокие материи говорить, даже если говорить про деньги, то все равно “косяк” получился. Со всех трибун возвещали, что строим национальную экономику, но делали это по принципам российского региона. Вот и имеем то, что имеем.

Теперь, после Украины, вроде, затмение потихоньку развеивается. Официальные структуры начали старательно искать содержание для билбордов со слоганом “То, что нас объединяет”. И признали, что не “Дожинки” объединяют белорусов, не хоккей и даже не Всебелорусское народное собрание. Несмело констатировали, что объединяют нас мова, история и культура, о чем теперь свидетельствуют большие плакаты на улицах городов. Вот только о самом главном словами не говорят. И если выразить то, что нас объединяет, символами, то придется вновь вернуться к тому, с чем старательно сражались, - к бело-красно-белому стягу и гербу “Погоня”.

Как ни пытались эти символы дискредитировать, как ни втаптывали в грязь, как ни наказывали за их использование, как ни промывали мозги на политинформациях и через СМИ, но то, что имеет действительно глубокие корни - не выкорчевать. На груди, у сердца, люди стали делать татуировку не “капусты”, но всадника. Без какого-то приказа, без суровой директивы, без ультимативной агитации. Сами, по велению души. Потому что так хотят, так чувствуют.

Как ни бдели идеологи, как ни тужились, но даже на концертах типа “Дни Беларуси в Москве” вдруг выяснялось, что почти все творческие коллективы одеты в бело-красно-белое. Случайно, не сговариваясь. Отобранные, благонадежные проверенные коллективы – и такой демарш.

Или вспомните, как бело-красно-белые зонтики у людей отбирали – чтобы нигде в городе даже не было намека на исторический флаг. А теперь в государственных магазинах продают и зонтики, и майки, и сумки, и ленты, и пакеты, и шарфы в национальных цветах. Значит, есть спрос. Значит, люди этого хотят. Значит, борьба была бессмысленной. Власти проиграли, победили зонтики.

Белорусская идея победила! В головах, в сердцах неравнодушных людей победила!

Реинкарнация советской символики в суверенной Беларуси не удалась. Не сроднились мы с ней, не полюбили. Власти пришлось даже отдельный закон писать, чтобы нормами и правилами хотя бы видимость почитания официальных символов обеспечить. Но какими нормами можно прописать любовь, трепет, гордость, волнение... Как заставишь, если никаких эмоций красно-зеленый флаг не вызывает, что-то глубинное не затрагивает? А вот бело-красно-белый - без всяких законов, указаний и норм - красивый, величественный, по-настоящему державный... Свой! Наш!

И “Погоня” – это как связь с чем-то значимым через века. Это как сила, помощь, вера, которая скачет из нашего прошлого в наше будущее. А снопы, колосья, лён, клевер... Скосили – сгнило. Вот и весь символ.

Сейчас, когда оглядываешься назад, то очень четко виден момент, с которого в Беларуси все пошло наперекосяк. Поменяли символы – и все стало разъезжаться. Можно подтягивать полы, можно шарфиком прикрываться, можно сумочкой; можно – ОМОНовскими щитами, можно тоннами книг по государственной идеологии, но все равно придется вернуться к тому, с чего накосячили – к своим настоящим символам. И потом все пойдет значительно легче.

**Светлана Калинкина**
**«Народная воля»**

## ДЕЛО САВЧЕНКО

*(пачатак на стар. 3)*
повторили дипломатические достижения покойного Муамара Каддафи. Ну, помните, когда у Каддафи из-за полной антисанитарии в госпиталях разразилась эпидемия СПИДа?

И Каддафи, не будь дураком, арестовал болгарских медсестер, приехавших по линии Красного Креста лечить ливийцев, пытками выбил из них показания, что они нарочно заражали СПИДом ливийских детей, и — добился-таки своего: заставил Запад уважать себя. Сам Саркози приехал в Ливию, чтобы поменять освобождение заложниц на снятие санкций против Ливии.

Каддафи первый понял, что это с террористами приличные страны не разговаривают. А когда заложника берет не террорист, а государство, разговаривают, да еще как!

Поэтому все, происходящее с Надеждой Савченко доселе, с точки зрения московских стратегов, было несомненной удачей. Ее героическое поведение, ее голодовки, ее избрание в Европарламент — все это только набивало ей цену. Вы думаете, Савченко будут менять на военнослужащих Ерофеева и Александрова? Ха!

Навязчивой идеей является отмена санкций. Савченко будут менять только на санкции. Хотите Савченко — снимайте санкции.

И очень возможно, что Москва добьется своего. Но, как учит история, у тактических преимуществ могут быть некоторые стратегические недостатки...

**Юлия Латынина**
**«Новая газета»**

## СПРАВА ЧЫЖА

# ПЯТЬ ФАКТОВ О ЗАДЕРЖАННОМ ЧИЖЕ

**«Наша Ніва» приводит фрагменты из биографии Юрия Чижа.**

**Жена — обладательница велнес-клуба, дети учились за границей**

Светлана Чиж, жена миллионера, в 2015 году попала в список «Топ-50 самых стильных женщин Беларуси» по версии журнала XXL.

Она является владелицей велнес-клуба EVO.

Велнес — это такая концепция здорового образа жизни, основанного на сочетании физического и духовного здоровья. Воспользоваться услугами центра могут только члены клуба — это закрытое учреждение.

Старшие дочь и сын Юрия и Светланы Чижов получали образование за рубежом. Сергей — в Англии, Татьяна — во Франции.

«Сыну было трудно в Англии, его тянуло домой, но он терпел. А когда закончил обучение, сказал, что хотел бы вернуться. Сейчас работает вместе со мной», — говорил Чиж.

После учебы в Оксфорде Сергей стал членом наблюдательного совета Минского завода игристых вин, акционером которого является «Трайпл».

Татьяна также вернулась на родину, она училась в Париже гостиничному и ресторанному бизнесу.

Младший сын Чижа учится в БНТУ по специализации «Экономика и управление производством».

**Копал картошку, косил траву, отдыхал на море... с Александром Лукашенко.**

Юрий Чиж неизменно входил в тот небольшой пул, с которым проводил время глава Беларуси Александр Лукашенко.

Даже в прошлом году Чиж вместе с Лукашенко копал картофель в Дроздах, свозил арбузы и дыни. Присутствовал он и при обучении француза Депардье навыкам косьбы.

Также Юрий Чиж всегда сопровождал главу Беларуси во время отдыха — хоть в Сочи, хоть в ОАЭ. Из бизнесменов в таких мероприятиях участвовал еще Александр Шакутин, хотя все знали, что между этими двумя миллионерами существовал определенный антагонизм.

**Часы за 400 тысяч долларов**

Скандинавские миллионеры стараются не демонстрировать свое богатство. Ходят в обычной одежде, ездят на обычных машинах. Юрий Чиж — богач другого типа. Например, бизнесмен всегда публично появлялся с очень дорогими часами на руке.

В 2011 году «Наша Нива» зафиксировала, что Юрий Чиж носит платиновые часы Ulysse Nardin, которых всего 30 штук в мире. Цена такого часов колебалась в районе 400 тысяч долларов.

Через два года владелец «Трайпла» пришел на исполком Белорусского федерации футбола с Patek Philippe Celestial Grand Complication, цена которого — в районе 260 тысяч долларов.

Вот к таким красивым вещам тянуло миллионера.

**Интересная манера играть в футбол**

Чиж — заядлый любитель футбола и борьбы. Он посещал практически все игры своего «Динамо». Причем в последнее время на стадионе «Трактор» садился прямо на трибунах, а не в какой-нибудь ложе. Всегда недалеко от него сидел бывший премьер-министр Владимир Ермошин. Чиж и сам не против поиграть в футбол. Главный тренер сборной Беларуси Александр Хацкевич был свидетелем, как бизнесмен держится на футбольном поле.

«Наверное, со стороны это выглядит достаточно интересно. Я не раз играл и за команду Юрия Саныча, и против нее. Эмоций очень много. Может, техники и мастерства иногда недостает, но страсть и энергия все это компенсируют. Юрий Саныч очень не любит проигрывать. Часто начинает руководить всеми на поле. Исполняет исключительно центрального нападающего. Иногда действует за счет тарана, иногда за счет своего авторитета. А порой берет на себя судейские обязанности. Спорная ситуация, соперник кричит, мол, ничего не было, а Юрий Саныч останавливается и говорит: «Нет, здесь точно был фол». И все соглашаются:). Некоторые моменты, конечно, комедийные. Но главное, что наши пульки — это эмоции и хорошее настроение», - говорил Хацкевич в интервью by.tribuna.

**Строил под Минском новые резиденции**

У Чижа есть коттедж в столичных Дроздах, самом престижном квартале Беларуси, но он решил заиметь еще и поместье за пределами Минска. Его новый дом находится возле Логойска. Общая площадь коттеджа огромная, аж 875 м2. Во дворе запланированы баня и бассейн. Чиж редко давал интервью не на спортивные темы. Однажды он рассказал о своих приоритетах в музыке.

«Я в плане музыки всеяден, но больше люблю авторские песни. Очень нравится Владимир Высоцкий. Ну и вообще — ретро: музыка 1970—1980-х, те вещи, на которых вырос. Все-таки раньше больше было смыслового и высокохудожественного. А сейчас: два раза топнул, два раза притопнул».

**Змитер Панковец**
**«Наша Ніва»**

## ПРАБЛЕМА ЎЗРОСТУ

# ПЕНСІЙНЫ ЎЗРОСТ ПАВЫШАЦЬ НЕЛЬГА

**Ёсць, як мінімум, тры прычыны, якія дазваляюць заяўляць пра тое, што павышэнне пенсійнага ўзросту з'яўляецца неабгрунтаваным рашэннем. Яно зусім будзе не на карысць нашай эканоміцы. І вось чаму.**

**Прычына першая: дэмаграфічная**

Цалкам абапіраючыся на дадзеныя Белстата, прывяду ўсяго некалькі цікавых статыстычных фактаў.

У 1955 годзе ў БССР нарадзілася 194 345 чалавек. У канцы 2014 года ў Беларусі ў 59-гадовым узросце знаходзіліся 129 916 чалавек. Калі не ўлічваць міграцыі, то атрымліваецца, што 33,2% насельніцтва не дажыло да 60-годдзя.

У 1950 годзе ў БССР нарадзілася 197 164 чалавек, у канцы 2014 года ў Беларусі ў 64-гадовым узросце было толькі 109 510 чалавек. Гэта значыць на пачатак 2015 года не дажыло да 65-годдзя 44,5% насельніцтва.

Такім чынам, павелічэнне пенсійнага ўзросту на 5 гадоў азначае, што 11,3% насельніцтва пазбавяцца магчымасці дажыць да пенсійнага ўзросту.

**Прычына другая: кадравая**

У апошнія гады ў Беларусі назіраецца пастаяннае зніжэнне колькасці занятага насельніцтва. За 2015 год скарачэнне колькасці работнікаў склала больш за 60 тысяч чалавек. Прычым асноўная частка скарачэнняў прыпадае на буйныя арганізацыі з дзяржаўным капіталам. Прадпрыемствы вымушаныя скарачаць колькасць работнікаў у пагоні за ростам прадукцыйнасці працы і зніжэннем сабекошту выробленай прадукцыі. Пры гэтым усплёску беспрацоўя мы не назіраем. Чаму?

Для адказу на пытанне варта зірнуць на ўзроставую структуру насельніцтва. На пачатак 2015 года ў Беларусі пражывала 83 972 54-гадовыя жанчыны і 57 700 59-гадовых мужчын. Такім чынам, у 2015 годзе пенсійнага ўзросту дасягнула 141 872 чалавекі. У 16-гадовым узросце на пачатак 2015 года было толькі 91 238 чалавек. Колькасць памерлых у працаздольным узросце ў 2014 годзе складала 24 367 чалавек. З гэтых дадзеных з пэўнай умоўнасцю (частка грамадзян сыходзяць на пенсію па выслузе, частка па інваліднасці) можна ўсталяваць, што па дэмаграфічных прычынах працаздольнае насельніцтва Беларусі за год скарацілася прыкладна на 75 тысяч чалавек. Гэта нават больш, чым фактычнае скарачэнне занятага насельніцтва.

У выніку павелічэнне пенсійнага ўзросту створыць каласальную нагрузку на беларускі рынак працы. Знайсці працу ва ўмовах эканамічнага крызісу стане неверагодна складана. Горш за ўсё давядзецца моладзі, паколькі знайсці сабе месца працы без неабходнага вопыту значна складаней. У выніку мы будзем мець масавы адток моладзі за мяжу ў пошуках працы. Многія з гэтых маладых людзей будуць страчаныя для беларускай пенсійнай сістэмы назаўсёды, паколькі нават пры ўмове вяртання ў краіну напрацоўваць мінімальны 20-гадовы працоўны стаж у іх ужо не будзе ні часу, ні жадання.

**Прычына трэцяя: эканамічная**

Для тых, каму двух першых прычын недастаткова, прывяду, мабыць, самы важкі аргумент — эканамічны.

Для гэтага неабходна памятаць пра тое, што сродкі, прызначаныя для выплаты пенсій, — не падарунак ад дзяржавы. Яны пералічваюцца намі ж і нашымі працадаўцамі ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН) з кожнай нашай зарплаты.

Таму прапаную зірнуць на сумы, якія мы адлічваем на пенсію па працягу свайго працоўнага жыцця, і супаставіць іх з фактычнай велічынёй пенсій, якія нам выплачваюць.

Вызначыць сярэднюю велічыню пенсійных унёскаў у Беларусі не так проста. Справа ў тым, што ўнёскі на пенсійнае страхаванне пералічваюцца як самімі работнікамі, так іх працадаўцамі, а велічыня ўнёскаў залежыць ад памеру заработнай платы супрацоўніка. Таму для чысціні эксперыменту будзем выкарыстоўваць унёскі на пенсійнае страхаванне, якія выплачваюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі.

Справа ў тым, што ІП сам вызначае памер свайго даходу, з якога ён будзе выплачваць унёскі. Аднак памер даходу не павінен быць меншы за суму мінімальных заробкаў за год. Такім чынам, ІП абавязаны выплаціць у ФСАН унёсак у памеры не менш за 35% мінімальнай заработнай платы. Пры гэтым выразна вызначана, што 29% прызначаецца на страхавыя ўнёскі па пенсійным забеспячэнні.

У цяперашні час памер мінімальнай заработнай платы складае 2 300 000 рублёў. Такім чынам, мінімальны памер штомесячных унёскаў прадпрымальнікаў на пенсійнае страхаванне складае 667 000 рублёў. На сённяшні дзень гэта крыху больш за $ 32.

Прымаючы пад увагу, што сёння за размяшчэнне доўгатэрміновых укладаў у валюце беларускія банкі прапануюць ад 4% гадавых, разлічым, якую б суму здолелі назапасіць прадпрымальнікі, калі б страхавыя ўнёскі па пенсійным забеспячэнні размяшчалі на доўгатэрміновым валютным укладзе. …

…грамадзяне Беларусі сёння атрымліваюць пенсію значна меншую, чым маглі б. Раней гэта можна было спісаць на той факт, што вялікая частка пенсійных унёскаў пенсіянераў загадала доўга жыць разам з СССР. Але з кожным годам велічыня пенсійнага фонду, сфармаванага ў незалежнай Беларусі, павінна становіцца ўсё большай. А значыць, беларусы маюць права чакаць альбо паступовага павелічэння пенсій, альбо скарачэння памеру пенсійных унёскаў.




Але паколькі замест гэтага нам кажуць аб неабходнасці павышэння пенсійнага ўзросту, то ўзнікае простае пытанне: «А дзе ж пенсійныя ўнёскі беларусаў за апошнія 25 гадоў?» Калі іх стала не хапаць нават на цяперашні памер пенсій, то гэта азначае, што сродкі былі выкарыстаныя надзвычай не эфектыўна. Калі ж гэта не так, то павелічэнне пенсійнага ўзросту павінна суправаджацца альбо істотным ростам памеру пенсій у доларавым выражэнні, альбо сувымерным скарачэннем велічыні пенсійных унёскаў.

*(скарочана)*

**Аляксей Харкевіч**
**"Новы час"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 30.03.2016 у 17.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.